# МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

Орган ЦКЛКСМБ






№ 11

Старшыня Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік
АЛЯКСЕЙ ІВАНАВІЧ РЫКАЎ.

1925 г.

# Аляксей Іванаў Рыкаў.

Наша краіна перажыла цяжкую ўтрату.

Ня стала бязьзьменнага старшыні Савету Народных Камісараў—Уладзімера Ільліча Леніна.

Зараз-жа пасьля гэтай цяжкай страты паўстала пытаньне: хто-ж заменіць пакойнага Ільліча.

Ніякіх сумненьняў і спрэчак гэтае пытаньне ня выклікала. Комуністыя, а за імі і члены Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту Саветаў, зышліся на тым, што заступнікам т. Леніна павінен быць яго бліжэйшы памоцнік і намесьнік па кіраўніцтву Савецкай дзяржавай—Аляксей Іванаў Рыкаў. 2-га лютага 1924 году т. Рыкаў і быў выбраны Цэнтральнымі Выканаўчымі Комітэтамі Саюзу ССР і РСФСР на пасаду Старшыні Савету Народных Камісараў. Такое рашэньне зусім адпавядала жаданьням пакойнага т. Леніна.

### Пахаджэньне і сям'я А. І. Рыкава.

Бацька А. І. Рыкава—селянін Вяцкай губ., Яранскага павету, слабады Кукаркі. Спачатку ён займаўся ў сябе на радзіме сельскай гаспадаркай, але затым перабраўся з сваёй сям'ёю ў горад Саратаў.

Тут у яго 19 сакавіка 1881 году і радзіўся сын Аляксей.

У Саратаве сям'я Рыкавых жыла ня важна і, як гаворыцца, перабівалася з хлеба на квас. У давяршэньне няшчасьця, калі Аляксею было ўсяго каля 8 гадоў, бацька яго памёр ад халеры, матка памерла яшчэ раней.

Аднак, хлопчык усё-ж не заставаўся без асьветы. Старшая сястра яго была настаўніцай, і хоць цяжка было, на свае апошнія грошы яна аддала брата ў гімназію.

### У гімназіі першыя рэволюцыйныя крокі.

У той час, калі Аляксей Іванаў вучыўся ў гімназіі, у Саратаве пачалі організоўвацца і працаваць патайныя гурткі рэволюцыянэраў. Яны прыцягнулі да сябе вучнёўскую моладзь і стараліся рабіць сувязь з рабочымі і сялянамі.

Т. Рыкаў таксама прымае гарачы ўдзел у патайных рэволюцыйных гуртках. Рэволюцыйная дзейнасьць гімназістага Рыкава не праходзіць міма вачэй царскай паліцыі. Жандары высачылі т. Рыкава і зрабілі ў яго першы вобыск. Пры вобыску нічога асаблівага не знашлі, але, тымчасам, т. Рыкаву было забаронена вучыцца ў сталічных унівэрсытэтах.

### У Казанскім унівэрсытэце.

У 1900 годзе А. І. Рыкаў скончыў Саратаўскую гімназію і паехаў у Казань, дзе і паступіў у унівэрсытэт.

Тут т. Рыкаў аддаецца рэволюцыйнай працы. Ён уступае ў Казанскую організацыю соцыял-дэмократычнай партыі і па яе даручэньню вядзе працу па асьвеце і організацыі рабочых.

Пасьля шасьцімесячнай працы ён быў арыштаваны, пасаджаны ў турму і прасядзеў там 9 месяцаў.

Затым т. Рыкава да суду і прыгавору па справе аслабаняюць і высылаюць на радзіму, у Саратаў, пад нагляд паліцыі.

### Ізноў у Саратаве.

Буйная натура т. Рыкава не дазваляла яму сядзець пад надзорам злажыўшы рукі. Адразу-ж вярнуўшыся ў Саратаў ён аднаўляе ранейшыя рэволюцыйныя сувязі і бязупынна вядзе падпольную працу сярод чыгуначнікаў і рабочых млыноў і мэханічных заводаў.

1-га траўня 1902 г., у дзень міжнароднага рабочага сьвята, т. Рыкаў разам з другімі таварышамі-рэволюцыянэрамі організаваў у Саратаве адкрытую дэмонстрацыю з чырвонымі штандарамі. У той час гэта лічылася вялікім праступкам. Улада выпусьціла на рабочых і іх кіраўнікоў цэлую ганьню паліцэйскіх і чорнасоценцаў. Адбылася стычка, і т. Рыкаў быў зьбіты да бяспамяцi.

І вось т. Рыкаў мяняе сваё імя, абзаводзіцца фальшывым пашпартам, або, як гаварылі тады рэволюцыянэры, „пераходзіць на нелегальнае становішча".

### З гораду ў горад.

Ніякіх хістаньняў, ніякіх сумненьняў т. Рыкаў ня ведае. Заўсёды застаецца праўдзівы сабе і свайму абавязку рэволюцыянэра. Калі соцыял-дэмократычная партыя разьбілася на дзьве часткі—бальшавікоў, на чале з У. І. Леніным, і меншавікоў—т. Рыкаў рашуча пераходзіць на бок т. Леніна і да канца застаецца праўдзівым яго вучэньню.

Ні сьцігваньне царскага ўраду, ні бяздомнае вандроўнае жыцьцё, ні вайна—нішто ня спыняла Аляксея Іванава Рыкава.

Толькі арышты і ссылкі перарывалі яго палітычную працу.

Усяго разам у розныя часы т. Рыкаву прышлося адбыць болей $7^1/_2$ гадоў адзіночнага затачэньня і некалькі ссылак у далёкія месцы Архангельскай губэрні і Сібіры. Але ён кожны раз уцякаў з ссылкі назад на працу.

Ва ўсе часы сваёй рэволюцыйнай працы т. Рыкаў падтрымоўваў самыя цесныя адносіны з Уладзімерам Ільлічом Леніным.

### Член Цэнтральнага Комітэту партыі.

Асабліва заўзятую працу павёў А. І. Рыкаў у Маскве, у часы рэволюцыі 1905 году ў студзені-сакавіку. Ён прымаў, між іншым, удзел па будове першых маскоўскіх барыкад у Замаскварэччы.

Да гэтага часу т. Рыкаў карыстаўся ўжо ў рэволюцыйных рабочых славай энэргічнага і сьмелага рэволюцыянэра, праўдзівага сябра працоўных. Вось таму вясной 1905 году маскоўскія бальшавікі пасылаюць т. Аляксея сваім дэлегатам на III зьезд партыі, які быў скліканы ў Англіі ў горадзе Лёндане. На зьезьдзе А. І. Рыкаў быў выбраны членам Цэнтральнага Комітэту партыі бальшавікоў. З таго часу т. Рыкаў амаль бязьзьменна лічыцца членам гэтага комітэту. Пасьля сьмерці У. І. Леніна т. Рыкаў застаўся старэйшым па часу членам Цэнтральнага Комітэту партыі.

*(Глядзі 3-ю старонку вокладкі)*



# СІДАРЧУК.

*(Апавяданьне).*

Калі глядзець вось на гэтую вялікую палянку з ценю леса, дык быццам глядзіш у цялесьнікі печы, у якой усё, ахопленае сонцам, гарыць, палае, як і яно само. Гарачыня—ня вытрываць: сядзеў-бы ў рэчцы ды й мок цэлы дзень.

А ўзгоркі, што ў прыску пякуцца, смажыцца на іх ужо пажоўклая трава, мясцамі яна стаіць іржышчам. Здалёк рэчка люстэркам блішчыць, ня відаць, каб яна бегла; у такой гарачыні яна, як растопленае волава, уліта астываць у сваіх кучаравых берагох. За рэчкаю разьлягаюцца сялянскія палеткі з усякім збожжам і толькі ў адным месцы, у закутку берагоў, распасьцёрся кавалачак сенажаці.

Наводдалі відаць, як узьбіраецца на ўзгорак з лагчынкі вёска,—новыя хаты ідуць паперадзе, за імі цягнуцца заімшалыя, рыжыя, каравыя, нязграбныя хаты, хлявы і гумны. Быццам упрочкі сабралася ісьці вёска ды ніяк ёй не ўсьцягнуцца на ўзгорак, старэнькія хаты ўгразьлі ў лагчыне, ня выдзераш іх на іншы шлях. Пазіраеш на яе з-за лесу, і думкі адна за адной цягнуцца, як сама вёска. Куды вёска імкнецца? На які шлях кіруюць яе думкі? Мо ёй стала цесна ў лагчыне, няма дзе разгарнуцца, дык і цягнецца, шукае іншых прастораў, разлогаў? А мо жыцьцё, якое дагэтуль панавала, ужо не здавальняе вёску, і яна вырашыла думку, што лепш жыць паасобку, чымся разам?

Хто яе зразумее. Добра й тое, што вёска ўжо цягнецца з балота на ўзгорак, шукае лепшых шляхоў.

Перакідваюцца істужкамі за ўзгорак вясковыя шнуры-гоні, якія ўсьпярэсьцілі ўсю гэтую мясцовасьць.

Дзынгаюць косы, стогне, енчыць хрыпла падкошаная трава, пятрэе на сонцы, а потым складаецца ў копы, кладзецца на вазы. Разьлягаюцца ад ажынкаў й дажынкаў палеткі, раз-по-разу блішчыць серп з жменяю жыта, хутка выстройваюцца ў шэрагі мэтлікі. Зухавата, як маладыя хлапцы ў гальштуках, раскідаліся мэтлікі па іржышчы, стаяць сьведкамі сялянскіх ураджаяў—адны рызыкоўна трымаюць проста голаў і ўсьміхаюцца насустрэчу сонцу, а іншыя пахіліліся набок, прыгнулі галовы, аб чымсьці шэпчуцца з іржышчам, з зямлёю, журацца разьвітаньнем з імі назаўсёды.

Відаць, што кіпіць, завіхаецца сялянскае жыцьцё, што няма калі думаць аб іншым, акрамя, як убрацца з полем.

Захоплен гэтым жыцьцём, думкамі і тэрармеец Сідарчук.

У часе адпачынку на абедзенны перарыў, пасьля заняткаў, ён толькі-што пакупаўся ў Сьвіслачы і ляжаў пад кустом вербалозу. Узьлёг жыватом на зямлю, падпёр рукамі галаву, уперыўся вачыма за



Ткачыха ў дрэваапрацовачнай прамысловасьці за працай.

рэчку ў сялянскую работу і, мусіць, аддаецца, пераносіцца думкамі цалкам да іншых спраў. Відаць, ён змагаецца з самым сабою, як мага стараецца кіраваць абурыўшымі на яго й пачуцьцямі й думкамі. Камечыць сёньня атрыманы ад жонкі ліст,

некалькі раз ужо перачытаў яго, кіпцем падчыркнуў, дзе было напісана:... „дык, значыцца, можам з полем не падхадзіцца... Няма каму, сам ведаеш, якія засталіся дома гаспадары... А што пра комітэт пішаш, дык лепш і не кажы. Хто гэта цябе навучыў, што наш старшыня, як ты кажаш, павінен з'арганізаваць дапамогу?... Плявузгаеш няма ведама што... Калі хочаш, каб усё загінула, дык сядзі гарматаю там, пацяшайся стрэльбачкамі, кулямётамі, а потым будзеш узімку страляць па голых пасах, тарпавеньню...“

Схіліў галаву Сідарчук, павесіў на плечы свае думы, захапіўся хатнімі справамі і ўжо ня чуў, як гучэлі песьні шнуроў. Родная вёска, як гэтая за рэчкаю, стаяла ў вачох таксама з сваім клапотным жыцьцём, пытаньнямі.

„. . . . Але, пад сушняю добры верацень жыта, калі яго ў свой час не ўвабраць, дык на іншых гонях не падсілкуешся многа... Каб у гэты час скасіў паплаўцо ды сажаўку, што прырэзалі ад панскага маёнтку, дык кабыле на зіму сена за першы сорт... Таксама й авёс...“

Сідарчук заплюшчыць вочы і бачыць сябе на сажаўцы разам з Ганнаю: растуць, як у рачаіснасьці, копы, мэтлікі, скрыпіць цяжка ўложаны воз...

Вакол Сідарчука праехаў сялянкі воз з снапамі, і гэта яшчэ больш падбухторвала яго з сялянскімі думамі.

Яшчэ раз думаў Сідарчук папрасіць камандзіра, каб пусьцілі яго дні на тры-чатыры да хаты, а калі ня пусьцяць, дык...І раптам, быццам у адказ, малатамі стукалі іншыя думкі, іх не хацеў-бы мець на гэты час Сідарчук, але што зробіш з імі, калі яны лезуць у галаву мімавольна вунь з тых вайсковых шатроў, з лягеру, уліваюцца ўнутро разам з бадзёраю чырвонаармейскаю песьняю:

...Мы ўсе павінны і бязупынна
Пайсьці ў апошні сьмертны бой...

А потым ізноў тыя самыя сялянскія, хатнія думкі:

„. . . . Кажуць, тварам да вёскі сталі, а на збор бяруць у самую гарачую пару... Кандрат такі мо'й праўду казаў, што гэтыя павароты каб толькі зусім вёску ня вывернулі дырдом... Далі-б падхадзіцца на полі, а тады—куды хочаш можна йсьці; збор можна-б і на восень зусім адлажыць...“

І тут-жа, ну быццам толькі гэтага й чакала, пляснула па галаве думка, якую чуў ад камандзіраў, што нельга пазьней, ня будзе куды сабраць такі натаўп людзей, у горадзе няма месца, а ў лягерах ужо будзе холадна, ня ўседзіш у іх тады ні за вошта.

— І гэта праўда,—адказаў самому сабе Сідарчук і дадаў,—а што будзе з нашае вайсковае вучобы, каб гэта кожны з нас у часы збору да хаты бегаў на некалькі дзён: хто касіць, хто жаць, а хто па іншых справах...

— А хто-ж дома рабіць будзе, калі гаспадары благія засталіся?—рубам паставіў пытаньне ліст жонкі.

Сідарчук глянуў на ліст, сьціснуў яго ў кулаку і адказаў:

— А абараняць самых сябе, рабочых і сялян, як будзем, калі ворагі напруць? Ты, Ганна, нічога не разумееш у гэтых справах, а паслухала-б мітынгаў, газэт, дык убачыла-б, як ворагі супроць нас выстрайваюцца, што гэтыя мэтлікі. З качаргою ды з цэпам ня здолееш, трэба зброю ведаць, умець ёю валадаць і ўсё іншае. Дурніца ты ды й годзі...

Пачалося змаганьне з самым сабою—ліст, вёска, хатнія справы цягнуць да сябе Сідарчука, а абарона рабочых і сялян кіруе думкамі ў іншы бок.

Сідарчук змагаецца з самым сабою і няпрыметна адчувае сябе ўжо не як муж Ганны, а нейкім трэцім чалавекам паміж імі і на кожнае іхняе пытаньне раіў, адказваў, спрачаўся,ківаў галавою, моршчыў лоб.

— А сажаўку табе паны падаруюць? А лес, а пашу так-сабе просьцяць?

„...Людзі падходжваюцца ў свой час, а нашае няхай, значыцца...“—дадаваў ліст. А яму на гэта Сідарчук ужо са злосьцю прапаноўваў:

— Паднажміся там дома, як сьлед, а падхадзіцца трэба, бяз ніякіх размоваў! Чуеш?! Я табе загадваю!!—ужо моцна, забыўшыся, гаварыў і разводзіў рукамі Сідарчук.

— Каму ты гэта загадваеш, тав. Сідарчук, ці не вербалозіне? Вось табе сапраўдны загад ад аддзялённага йсьці зараз-жа на варту, — перапынілі думкі Сідарчука тры таварышы, якія пасьля зьмены ішлі на рэчку купацца.

— На-на вар-ту?! Добра, я—як бачыш!—раптам адказаў Сідарчук і зараз-жа накіраваўся ў бок лягеру...

Па дарозе ён яшчэ раз праверыў свае думкі і, здаецца, ужо быў зусім перакананы, што трэба як мага вучыцца, вартаваць. На момант азірнуўся на палеткі, сенажаць і з ухмылкаю разважаў: напішу сёньня Ганне ліст, каб гэткіх гутарак больш ня было, а ўвечары зайду да камісара, каб „паднажаў“ на комітэт...

Насустрэчу—песьні з лягераў, Сідарчук сам бадзёра падцягваў:

...Прагонім з зямлі палачоў...

Мік. Арабей.

# У хвалях жыцьця*).

*(Апавяданьне).*

V.

Ліпнёвыя дні.

Ну, да ўжо аніяк сьцярпець немагчыма ўсіх гвалтаў і зьдзекаў, якія ўтварыў і ўтварае над сялянамі „ожэл бялы!“ Стогне, пакутуе чалавек з рукамі ў мазалёх ды й за чалавека яго ня маюць.

— Быдла!.. Хам!..

Вось што можна пачуць ад паляка замест слова „селянін“.

Ды толькі нешта грукат гармат пачаў усё ясьней, усё бліжэй падкачвацца да вуха сялян. На Бярозу ўсе вочы свае заплаканыя ўперлі, чакаюць цуда. А палякі гойсаюць на конях, рабуюць, катуюць, бяруць фурманкі. Уся вёска ў пушчы і там каровы, уся дробная скаціна, коні, адзежа і ўсё дабро... Нейкае новае жыцьцё ў пушчы раскрылася. Як у казках...

Вёска з старымі ды зусім малымі скорчылася ў сполаху, прыкрылася маўчанкаю. А па вуліцы брудна-шэрымі чарвямі паўзуць легіёны на фронт.

Праходзяць ночы трывожныя, дні зьмяняюцца...

— Я ім гэты!.. Я ім гэты!.. Братка, стрэльну, хоць аднаму!..

З палаючымі вачыма, на цыпачках, па балоце халзіў Мікола з самадзялковай стрэльбай, набітай кулямі...

— Стрэльні, Мікола!.. Падцікуй!

— Ой, глядзі, брат?!.. Як стрэльнуць, дык і сьвету ня ўбачыш!..

— Глупства!.. Яны цяпер ходзяць, як на рысорах...

— Нічога!.. Стрэльну!... Бо ў іх ужо адна калашына гэты, а другая, во!..

І Мікола сагнуўся паказаць, як у паноў справа абстаіць з калашынамі. Абхапіў каля лапця штаны, аж зачырванеўся.

— Я, брат, за сябе і за дзяўчыну гэту... за Анелю!.. Абое мы напакутваліся.

А фронт падыходзіў бліжэй і бліжэй. Анелька, ужо паспрабаваўшы раз панскай ласкі, баялася выходзіць з хаты і паказвацца на вочы палякам. Калі прыходзілі яны ў хату—яна лажылася на ложак і стагнала. Яе ніхто не чапаў.

— Чым-бы гэта мне бальшавіком дапамагчы?.. Няўжо-ж я буду так і сядзець, злажыўшы рукі, і не змагу адамсьціць ім, паном...

І доўга думала Анелька, як-бы гэта хутчэй ды ямчэй адамсьціць, а каму—дык гэта жандару Вацлаву... Доўга думала Анелька і ўрэшце надумалася. Аж радасьць забуяла на сэрцы.

Ня гледзячы на блізасьць фронту, жандар Вацлаў часта прыяжджаў у вёску, дзе жыла Анелька. Прычын знаходзіў шмат: то катаваць сялян, то фурманкі браць, то харчы, а то і проста праехацца каля вакна Анельчынага...

І, як на тое, сягоньня ён заехаў к Анельцы Цялушку ўзяць намеціў; хоць лажыся і памірай, а яму яе аддай.

— Не раздабарывай!.. Потшэбно! Жолнежы без менса...

— Паночак, пашкадуй нас, бяры, што хочаш, толькі не чапай цялушкі!.. Няўжо ўпрасіць яснавяльможнага ня можна?

Надуў вусы, і гамонку зарвала. А ў гэты час бурліла-кіпела ў грудзёх Анелькі, толькі каменем запяклося, выказаць не жадалася...

Лепш сьцярпець пакуль-што...



І старыя комсамоляцца. Актывісткі Старо[illegible]

Ужо вечарэла. Вышаў на двор жандар каня дагледзіць ці то так чаго, за ім Анеля. Вочы агнём палаюць, рвуцца грудзі ў хвалях бурлівых... уздрыгвае часамі.

На фронце то там, то сям загвалтуе кулямёт і захліпнецца ў злосьці адчайнай. Вінтоўкі перагаманьваюцца. Дзесьці далёка на небасхіле агеньчыкі таемныя ўсхліпваюць...

— Вацлаў, ты не бяры ў нас каровы!..—Ні то прасіла, ні то загадвала яму Анеля.

— Чаму?.. Калі-ж нам трэба!

— Дык-жа і нам трэба!.. Вацлаў?..

---

*) Глядзі «М. А». № 9—10.

І нібы з захапленьнем падышла к яму дзяўчына. Ня верылася жандару, што дзеўка перамянілася. Падышоў да яе і лэпнуў за грудзі. Усьміхнулася Анелька і слаба рукою адвяла яго руку. Захваляваўся жандар.

— Вацлаў, пройдзем куды?!..

— Пойдзем!..

І забыўшыся на ўсё, ён пашоў за ёю, за гумнішча к лесу. Узышлі на сенажаць.

— Куды-ж мы пойдзем?.. Тут...

— Не, Вацлаў, я не хачу!.. Пройдзем далей, усё роўна табе. Начаваць-жа ў нас будзеш!..

Ішоў Вацлаў. Увашлі ў лес. Ён, цёмны, пахмурны, марматаў нешта пад нос, сердаваў на гасьцей няпрошаных.

Яна калацілася ад халадку і ад рашучасьці яе ахапіўшай. У галаве віхрам думкі мітусіліся.

— А калі ня ўдасца?... Калі...

І затрымцела ўсім целам Анелька. Вацлаў прыхінуў к сабе яе, абняў... У гэты час ён жадаў паказаць сябе храбрым жаўнерам.

— Вацлаў?!. А калі нас тут бальшавікі сустрэнуць часам?.. Што тады?..

Ні хвіліны не задумаўся Вацлаў і выцягнуў з кабуры браўнінг.

Блiснуў ім у паветры.

— Во што для іх... Ня бойся, любая!..

У гэты час у лесе за арэшнікам нешта зашамацела. Хруснула сухая галіна.

— А каб я гэта стрэльнула... а... Дай хоць раз у жыцьці... Я баюся тут у лесе. Дай выстралю, мо сьмялей будзе?..

— А чаму-ж не?.. На!.. Толькі залажы вось сюды пальчык і ціскані...

Жандар прыгатаваў рэвольвэр к стральбе яксьлед і перадаў у цямноце Анельцы. Калаціліся рукі ў яе... За кустамі нешта напружна з перахопамі сапло.

І раптам, нечакана, дрыжачаю рукою, у няпрытомнай рашучасьці навяла Анелька дула рэвольвэра ў грудзі жандара і цісканула за спуск...

Коратка, суха і прарэзьліва працяў паветра стрэл. Бліскавіцай стрэлу асьвяціўся зьбялелы твар Анелькі з агнявымі вачыма...

Усьлед за стрэлам пракаціўся нямы крык канаючага чалавека і... усё сьціхла.

Апусьціла рэвольвэр дзяўчына, з-за кустоў высунулася нейчая чорная фігура. Ціха падкралася к распластанаму на зямлі жандару і пакратала яго...

— Кончыўся!.. Здох!.. Маладзец, Анелька.

Цяпер толькі апомнілася дзяўчына, што нарабіла, і сполах дурны прабраў яе. Памкнулася ўцякаць у глыб лесу, а потым стала... Сэрца тоўхае, аж грудзі ўзрывае.

— Дзядзька Мікола?.. Дык што-ж будзе?..

Мікола соп, стоячы на каленях перад Вацлавам, здымаючы з яго апошнюю зброю. Заварушыўся, азірнуўся на Анелю.

— Добра!.. Нічога!.. Добра!.. Зараз убяром падлу гэтую... Ось, памажы!..

Махінальна падышла яна, узяла за ногі і цяжкасьці не адчула. Мікола, як дзіцё якое, у пол абхапіў яго і пацягнуў у гушчарнік. У Анелькі мітульга ў вачу, рукі ўздрыгваюць...

Каля вогнішча хлопцы і мужчыны старыя абступілі іх, пытаюць, гамоняць, дзівяцца...

А ў Анелькі думкі вірам заварачваюцца.

## VI.

З гэтага вечару для Анелькі пачынаецца новае жыцьцё, пераблытанае ў казачнай адчайнасьці, клясавай варожасьці. Жыцьцё сярод пушчы беларускага паўстанца.

Кражыстыя хвоі, карава-разложыстыя дубы і ясені хавалі ад панскага вока грамаду людзей, якая ўцякла сюды з вёсак, ня змогшы сьцярпець гвалтаў і зьдзекаў панскіх над сабою. Гэтая кучаравая, дабрадушная моладзь знашла абаронцу сабе і сваіх патоптаных правоў чалавека ў асобе размаітай зброі, якой былі ўвешаны ўсе яны, партызаны.

І Анелька таксама. Здаецца, недарэчным было да гэтых вочак-васількоў, да ільняных кудзеркаў, што вянком апавілі твар яе белы, браўнінг пры поясе, маленькая карабінка за плячыма, кулямётная істужка цераз плячо...

Калі гэта відана было?..

Вось і жанчына, а любога хлапца за пояс заткне!

Ды чаму-ж?!.

Анелька—атаман.

Але ад пастаяннага жыцьця ў лесе, бяз сну, яды, заўсёды ў апасцы, налажыла сьлед і на яе. Вочкі запалі, тварык выцягнуўся, пахудзеў, але пастаць яе, вочкі-васількі і ўся яна ўяўляла з сябе чалавека, які за агульную справу, за ідэю не астановіцца ні перад чым, каб дайсьці да намечанай мэты.

Сярод гушчарніка пушчы, каля палаючага вогнішча, разьляглася ўся грамада паўстанцаў.

Хто пёк сала, хто варочаў у прыску бульбу, а хто лежачы напяваў сам сабе песьню...

— Хлопцы?!. Так заўтра значыць і гэты...

— Гэты!..

Насьмешліва кінуў з-за куста дзяцюк у легіёнерскай форме, выставіўшы к агню босыя ногі, і зарагатаў вясёлым раскацістым сьмехам.

— Да ты ня сьмейся, сукін сын!.. от паглядзім, як заўтра ты пасьмяешся, як схвацімся з імі... Вось адзеўся трохі, пад'еў, дык і сьмех бярэ... Але вось заўтра гэты...

— Ну, ну!.. гэты!..

Ізноў кінуў з-за куста і зноў заліўся сьмехам...

Мікола больш не гаварыў, махнуў рукою, што значыла: „Эт, блазнота! Гаварыць ня варта. Палезь за жукам“... і, адвярнуўшыся ад вогнішча, пачаў аглядаць свой карабін.

Гэта будзе пасьледні
І рашыцельны бой...

Ціха зацягнуў Васіль, хлапец з суседняй вёскі, у якога палякі бацьку расстралялі за, нібы, удзел у партызанскім руху.

Анелька ў кроках дзесяці сядзіць ад вогнішча, прыпёршыся к бярозе, і васільковымі вочкамі ўпілася ў цемень аксамітную, у якой мітусіліся ў водблесках вогнішча фантастычнымі плямамі дрэвы і карчы.

У галаве чахарда думак. Жыцьцё яе адменнае, не на чыё непадобнае, змаганьне з панамі...

Пяць дзён тут, а шмат ужо чаго зроблена. Колькі легіёнэраў лягло ад яе рукі?..

Лічыць пробавала, ды лік згубіла.

— Эх, шмат душ загубіла!.. Ды які чорт душ?.. Паноў убрала, каб не паскудзілі сьвету. Доўг толькі аддаю, а вось заўтра...

І задумалася зноў. Заўтра будуць адступаць палякі. Ёсьць паведамленьне. Гэта ўжо не абозы...

Мо заўтра і Пятрусь...

І схапянулася Анелька, растала, разьлілася ў бурлівым каханьні страсьці нявымоўнай. І зноў жанчынай, зноў Анелькай ранейшай стала.

— Для яго, Пятруся!.. Яму ў дапамогу, любаму, дарагому!..

Хруснула сухая галіна, і пачуліся слабыя крокі з лесу па сьцежцы. Ведалі хлопцы, што ідзе свой чалавек, партызан, бо гэтай трапы ніхто ня знойдзе, акрамя сваіх. А ўсё-ж-ткі ня верылася, і на ўсякі выпадак за зброю хапіліся...

Анелька броўкі нахмурыла, вочкамі блiснула. Гэта ў яе заўсёды так перад апяскаю.

З цемнаты выплыла двое, гэтак сама ўвешаныя аружжам, на поясе віселі гранаты.

— Вось, хлопцы, я прывёў к атаману дзяцюка, суседняга атамана. Ён мае справу пільную, а я пайду на сваё месца.

І сказаўшы гэта, адзін з іх, вартаўнік, зноў шмыгануў у гушчар. Хлапец, што астаўся, церабіў рукою рэмень карабінкі і паглядаў на ўсіх добрымі шэрымі вачыма.

Нарэшце адважыўся.

— Хто атаман у вас?..

— Хадзі, брат, сюды!..

Клікнула да сябе яго Анелька. Дзяцюк абышоў вогнішча і астанавіўся перад ёю. На твары ў яго адбілася надзвычайнае зьдзіўленьне: ён ніколі ня бачыў такога дзіва, каб атаманам была дзеўка.

Мяўся ўсё трохі і абарачваўся на грамаду хлапцоў, што каля вогнішча і воддаль яго згрудзіліся...

— Садзіся каля мяне і гавары, якую ка мне маеш справу?..

Дзяцюк сеў.

— Хто паслаў?..

— Антось Корч! стаім ад вас у вярстох чатырох, у Слатвінскай пушчы...

— Што чуваць?..

— Ды вось атаман наш да вас ліст прыслаў; казаў, каб было ўсё вельмі сакрэтна...

І хлапец, распрануўшы сьвітку, аднекуль дастаў замусьленую паперку, з якой выцягнуў маленькі канвэрцік. Анелька ўзяла яго і, падышоўшы к агню, уважліва, разы два перачытала, што было напісана. Ніхто з сваіх хлапцоў і не інтарасаваўся, кожны знаў, што гэта сакрэт і таму не дахозіў, а падругое — адчулі хлопцы ў гэтым заўтра пацеху...

Анелька адвяла дзяцюка ў бок і яшчэ доўга пыталася аб нечым, а потым запісвала пры агні ў сваю кніжачку.

Дзяцюк пашоў.

— Зьмяніць варту!.. На двух узмацніць і спаць Заўтра прыдзецца ўставаць зараней...

Потым Міколу адвяла ад вогнішча і доўга з ім аб нечым раілася. Мікола ўсё нешта станавіўся на дыбы, гарачыўся, а потым здаўся...

— Вось, хлопцы!.. Я сама пайду, мо раніцай буду тут; калі-ж не зьяўлюся, дык вас у бойку павядзе Мікола... Яго слухайцеся, не прападзе ніводзін...

Сказала так Анелька і зьнікла. Лес толькі пакачаў галавою, падзівіўся сьмеласьці і адчаю гэтай дзяўчыны, ды арэшнік з папараццю аб'нялі яе сваім суччам, лапамі, ня пускалі ад сябе.

От дзеўка, дык дзеўка. Чорта за пояс заткне!..

— Ого!.. Гэрой, а не дзяўчына!.. Галоўка варыць!..

— А дома была, здаецца, да гэтага ёй не дадумацца...

— А тут к сабе нікога не падпускае...

— Дурань! Пятрусь у яе... Чакае з Чырвонай арміі.

Сталі перакідацца партызаны думкамі. Мо і доўга зацягнулася-б у іх гутарка, каб ня Мікола перапыніў.

— Хлопцы!.. Досыць!.. Спаць! Бо як не дасьпіш, дык заўтра ня тое...

Нудна ўсхліпвае вогнішча, некаторыя з хлапцоў ужо захраплі.

Ноч чорнавокая абнімала.

Далёка на балоце крычаў дзяцел.

А на ўсходзе кулямёт час-ад-часу аказваўся і сьціхаў надоўга.

Міколу ўсё нешта ня спалася.

*(Працяг будзе).*

**М. Нікановіч.**

**Глебка П.**

## Палюбіў я яе...

Палюбіў я яе, белакудрую,
Ў сіні вечар аўсянага жніва.
Вецер хмаркі на небе кудрыў,
Маладзік пазіраў, што санлівы,

Вецер шастаў калосьсямі ў полі,
Зоркі ў небе электрай гарэлі.
— Палюбі! — сэрца буйна сваволіла —
— Гэты твар малады, загарэлы!

Яна мне расказала пра вёску,
Пра работу ячэйкі й жыцьцё,—
Смутак хвалямі сэрца госкаў,
Што ў горад ды з вёскі я ўцёк.

Расказала... Сэрца кажа: ня змоўкну!
Аб чым вочы казалі?.. аб чым?..
Палюбіў я яе, комсамолку,
Ды за тое, што ў сэрцы быў К. І. М.

# ВЕРШЫ

## Дзень Ураджаю.

Між сьвят агнёў,
Бароцьбаў і віхораў
Дзень Ураджаю—сьпеў між страляніны,
Найлепшая пабеда на прасторах.
Як пад курганам сьпіць наш вораг,
Араты—першы волат у краіне

І рыцар міру,
Рыцар тлустай глебы,
Сьпявае песьні пры снапох у полі.
Нядаўна толькі кінуў дружку стрэльбу:
На папялішчах будаваці трэба
Новую сялібу на раздольлі.

Сьпявайце песьні
Ў сьвята творчай працы!
То—сьвята Розуму,
То—сьвята адпачынку.
Хай кожны ў родным полі, ў роднай хаце
Падлічыць новае сваё багацьце
Пасьля мінулых царскіх злаучынкаў.

Мінулі дні
Нявольніцкай прынукі.
Абхопім неба самалётным гудам...
Праз радыё,
Электрыку,
Навуку
Здабудзем шчасьце для сябе, для ўнукаў
Пад Савецкім вагнязорным цудам.

**Ясакар.**

## Ураджайнае.

Сёньня—сьвята Ураджаю
Будзем, хлопцы, сьвяткаваць,
Над трохполчынай труною
Будзем песенькі пяяць.

Дык, музыка, гучна грай,
Сёньня—сьвята Ураджаю!

Учора пот мы пралівалі,
А што зробім—пану шло.
Яны вечна сьвяткавалі,
У нас хлеба ня было.

Дык, музыка, гучна грай,
Бо ў нас сьвята Ураджаю!

Ахіляе ўжо нас
Разьвясёлы з шчасьцем час,
Сёньня плач крывой сахі
Нам заменіць гул машын.

Дык, музыка, гучна грай,
Мы сьвяткуем Ураджай!

Наша праца спачывае
У прыгорбленых таках,
Сёньня—сьвята Ураджаю
І мы, хлопцы, адпачнём.

Дык, музыка, гучна грай,
Сёньня—сьвята Ураджаю!

**Янка Бор.**

## Жніво.

Годзі, жытцо маё, годзі, насьпелае,
З хмарамі, з бурамі знацца, дружыць;
Годзі шумеці, думкі нясьмелыя,
Годзі загоны сабой харашыць!

Жнеяў прышла во дружына вялікая,
З песьняй за дзела ўзялася сваё;
Серп, як маланка, ўскок бегае, сыкае,
Глуха снапамі кладзецца жытцо.

Сталі ў калючым аржоньні з павагаю
Мэтлікі шнурам адзін за адным;
Сэрца забілась надзеі адвагаю:
Ёсьць на што глянуць, пацешыцца чым.

Эх, заплаці-ж, дабрыцо, ты аратаму
За яго ў полі ўвесь труд над табой:
Дай ты багацьце яму, небагатаму,
З клеці ня зводзься ягонай пустой.

Хай яго збудуцца думкі аднолеча:
Гэтулькі вынясе, выцярпе ён,
З году у год аручы, засяваючы,
Потам, квывёю абліты загон!..

**Янка Купала.**





# ЛЕНІНСКАЯ КОМСАМОЛІЯ.

## Да дню ўраджаю.

Па прыкладу мінулых год, у кастрычніку месяцы будзе праводзіцца сьвята ўраджаю. Для нашага вясковага комсамолу гэта адна з найвялікшых кампаній. Сьвята ўраджаю павінна падагуліць дасягненьні сельскай гаспадаркі за апошні год, заўважыць недахопы яе вядзеньня, вызначыць заданьні ў галіне паляпшэньня сельскай гаспадаркі на будучы год.

Дзень ураджаю павінен быць масавым сьвятам. Гэтага тым лягчэй дабіцца па тэй прычыне, што сялянства Беларусі сьвяткуе дзень ураджаю парэлігійнаму—„пакровы“ (14 кастрычніка). Зьместам сьвяткаваньня дню ўраджаю вясковыя комсамольцы павінны адсунуць сьвяткаваньне „пакроў“ на апошні плян, унёсшы ў сьвядомасьць сялянства неабходнасьць правядзеньня працоўнага сьвята—дню ўраджаю—што-год.

### Вопыт мінулага.

Мінулыя гады выявілі шэраг недахопаў у падрыхтоўцы намі дню ўраджаю. Часта вясковыя ячэйкі за 2-3 дні, у лепшым выпадку за тыдзень, даведваліся пра сьвята і браліся за яго падрыхтоўку. Звычайна сьвята праходзіла ў правядзеньні некалькіх мітынгаў, на якіх гаварыліся даўно ўсім вядомыя рэчы пра недахопы ў нашай гаспадарцы па ўсім Саюзе ССР. Аснаўным недахопам правядзеньне сьвяткаваньня было адсутнічаньне заданьняў, якія ўжываюцца ў тым ці іншым раёне і вёсцы.

З вопыту мінулага трэба зрабіць вывад: папершаму, аб сваечасовай падрыхтоўцы да сьвяткаваньня; падругому—да выдзьвіжэньня, галоўным чынам, не агульных, а конкрэтных лёзунгаў па паляпшэньню сельскае гаспадаркі, зрабіўшы асяродкам усёй нашай сельска-гаспадарчай пропаганды тлумачэньне політыкі партыі ў вёсцы.

### Сваечасова намеціць заданьні па паляпшэньні сельскае гаспадаркі.

Прыблізна за месяц да сьвяткаваньня трэба зьвязацца з зямельнымі ўстановамі, агрономамі і сельсаветам, дакладна выявіць: становішча сельскай гаспадаркі ў гэтай мясцовасьці, якія напрашваюцца паляпшэньні, якую прыблізна культуру патрэбна і практычна можна тут разьвесьці.

Кожная вясковая ячэйка павінна апрацаваць пытаньне аб становішчы сельскае гаспадаркі ў гэтай вёсцы і раёне, намеціўшы з дапамогай установў НК Зем'у мерапрыемствы па яе паляпшэньню.

### Сьвята павінна быць масавым.

Трэба дабіцца таго, каб ня толькі комсамол і моладзь, але й сялянства ўсёй масай прымала удзел у правядзеньні сьвяткаваньня. Дзеля гэтага сельска-гаспадарчыя школы, школы сялянскай моладзі, вясковыя ячэйкі комсамолу павінны сваечасова растлумачыць сялянству аб дню ўраджаю. У комісіі па правядзеньню дню ўраджаю належыць прыцягваць ня толькі прадстаўнікоў савецкіх і іншых організацый, але па магчымасьці і больш сялянскага актыву.

Мінулыя гады сьвяткаваньня дню ўраджаю абхаплівала толькі беларускае сялянства. Сялянства польскае, латыскае і ў асаблівасьці сялянства жыдоўскае, якое працуе ў колектыўных таварыствах і г. д., амаль зусім ня было абхоплена. Надзел жыдоў зямлёй, політычнае зрушэньне, якое прымечана ў польскіх і латыскіх сялянскіх колёніях, дае магчымасьць у бягучым годзе абхапіць і гэтую частку сялянства.

### Падлічыць свае пасьпехі і недахопы.

Вялікія заданьні комсамому ў галіне падняцьця сельскай гаспадаркі. Даўно ўжо выкінуты лёзунг нашай організацыяй „Сябра ЛКСМ—лепшы гаспадар на сяле“. Як праводзіцца гэты лёзунг, што зроблена ў напрамку яго правядзеньня ў жыцьцё? На жаль, зроблена мала, але усё-ж такі ёсьць нейкія вынікі, і дзень ураджаю павінен падштурхнуць вясковыя ячэйкі на далейшае разьвіцьцё працы ў гэтым напрамку. Дасягненьні і палепшаньні сельска-гаспадарчых культур, комсамольскія дзесяціны агародаў трэба прадэмонстраваць перад сялянствам. Прагледзіць, як вядуць свае гаспадаркі комсамольцы, асабліва самастойныя гаспадары, лепшых пахваліць,

а іншых добра прадзёрнуць, аслабшую працу сельска-гаспадарчых гурткоў патрэбна ажыцьцявіць, там, дзе няма такіх гурткоў, трэба прыкласьці сілы да іх організацыі, да дню ўраджаю ўзмацніць сельска-гаспадарчую пропаганду сярод сялянства.

**Піонэры і дзень ураджаю.**

Да дню ўраджаю на піонэрскія атрады ўскладаецца даволі вялікая праца. Ім прыдзецца, папершаму, у самых атрадах добра апрацаваць заданьні дню ўраджаю, пазнаёміцца з становішчам сельскае гаспадаркі, намеціць плян правядзеньня дню ўраджаю сярод іншых дзяцей, праверыць правадзімую імі сельска-гаспадарчую пропаганду. Перад днём ураджаю патрэбна весьці тлумачэньні сярод дзяцей аб гаспадарцы, а ў самы дзень сьвяткаваньня прадэмонстрыраваць экспонаты свае працы на школьным агародзе, правесьці масавыя сьвяткаваньні і вечары з дзецьмі.

**Хата-чытальня да дню ўраджаю.**

Амаль уся пропагандысцкая праца да дню ўраджаю павінна быць пророблена хатай-чытальняй. Комсамольцы разам з саветам хаты намячаюць програму працы па пропагандзе, якая гэтай хатай павінна быць пророблена ў дзень сьвяткаваньня. У галоўным гэта праца выбухнецца: у організацыі сельска-гаспадарчага кутка, апрацоўцы сельска-гаспадарчай літаратуры, правядзеньні шэрагу гутарак па пытаньнях сельскай гаспадаркі і організацыі вечароў. Гурткамі хаты-чытальні павінна вясьціся самая галоўная падрыхтоўка да дню ўраджаю. Селькоргурткі распрацоўваюць даклады да дню ўраджаю, політгурткі—пытаньне політыкі партыі ў вёсцы, драмгурткі—пастаноўкі п'ес, вершаў і розных частушак на тэму дню.

**Правядзеньне сьвяткаваньня.**

Парадак сьвяткаваньня прадугледжвае два асноўных дні: 1) гэта 11 кастрычніка. У гэты дзень пры ўсіх райсельсаветах адбываюцца масавыя вечары, да ўдзелу ў якіх патрэбна прыцягнуць па магчымасьці больш сялянства. Вечары гэтыя лепш за ўсё праводзіць у сельска-гаспадарчых школах і школах сялянскай моладзі, калі такія маюцца на тэрыторыі райсельсавету. На вечарох неабходна правесьці некалькі выступленьняў-дакладаў. Гэтыя выступленьні павінны асьвяціць пытаньне аб дню ўраджаю, аб заданьнях сельскай гаспадаркі і аб політыцы партыі ў вёсцы. На гэтых-жа вечарох пажадана вынесьці падзяку лепшым гаспадарам-сялянам і гаспадарам-комсамольцам. Вечары павінны заканчвацца зачытваньнем вершаў, сьпевамі частушак і пастаноўкай п'есы.

У другі і самы галоўны дзень сьвяткаваньня, 14-кастрычніка, адбываюцца пры Райвыканкомах сельска-гаспадарчыя выстаўкі. Мэтай выстаўкі зьяўляецца: дэмонстрацыя становішча і дасягненьняў сельскае гаспадаркі ў даным раёне, палепшаных форм землякарыстаньня, працы сельска-гаспадарчых машын, пашырэньне і дзень коопэрацыі, дэмонстрацыя становішча кустарнай прамысловасьці, якая абслугоўвае гэты раён.

На гэтых выстаўках праводзяцца гутаркі па пытаньнях політыкі партыі ў вёсцы, пытаньнях сельскае гаспадаркі, коопэрацыі, сувязі гораду з вёскай і г. д. Па сканчэньні выстаўкі неабходна правесьці выдачу нагародаў і ўрачыстую падзяку тым сялянам, якія даставілі лепшыя экспонаты.

Выстаўка павінна быць зачынена масавымі гульнямі, танцамі, выступленьнем спортыўных гурткоў, пастаноўкай п'есы і г. д. У той-жа час піонэрамі праводзяцца масавыя гульні дзяцей, дзіцячыя вечары.

**Дакладна выявіць вопыт сьвяткаваньня.**

1925 г. зьяўляецца не апошнім, у якім мы праводзім дзень ураджаю. Гэта сьвяткаваньне нам прыдзецца праводзіць яшчэ шмат гадоў. І тут для нас надзвычайна важна выявіць вопыт сьвяткаваньня. У самым процэсе падрыхтоўкі трэба запісваць усю працу, якая праводзіцца пасьля правядзеньня сьвяткаваньня, належыць кожнай ячэйцы зрабіць вывад па кампаніі, адзначыць як усе дасягненьні, так і недахопы ў правядзеньні дню.

Кожная вясковая ячэйка павінна асьвяціць у газэце і ў часопісе „Малады Араты“ як падрыхтоўку, так і правядзеньне сьвяткаваньня дню ўраджаю.

**Л. Цэйтлін.**

**Алесь Дудар.**

# Комсамолка.

Заклубіліся над рэчкаю асіны—
кацяць цені у зялёную ваду...
Паглядзі, матуля, вечар які сіні—
я ўсё роўна на вячоркі не пайду...

Шэфы з гораду прывезьлі падарункі—
для ячэйкі шмат прывезьлі кніг,
а портрэты, а плякаты і малюнкі—
зроду ты ня бачыла такіх!..

Хай дзяўчаты хоць да раніцы гуляюць—
нам даклад сягоньня робіць агроном.
Скажа, як палепшыць ураджаі,
як змагацца з сушай і дажджом.

А на сходзе засьпяваем дружным хорам—
песьню сьмелую нікому ня спыніць.
Ах, як лёгка пальцы ходзяць у Ягора,
італьлянка як Ягорава зьвініць.

Заклубіліся над рэчкаю асіны—
цені кацяцца ў зялёную ваду...
Захістаўся вечар ціхі, сіні—
я, матуля, на вячоркі не пайду.



## Пасялковая.

*(Новая народная песьня).*

Наш Мікіта, селянін,
Сабраў озім ды ярыну!
Быль, быль, быліна,
Быліна, былінушка!

Перашоўшы на пасёлкі,
Наш Мікіта стаў вясёлшым!
*(Прыпеў).*

Ой, чаму-ж ня быць вясёлым,
Калі поле вакол дому!
*(Прыпеў).*

Няма вузкай паласы
Вёрст за сем, дзе жыў Касы!
*(Прыпеў).*

Каня вольна завярну,
Гной ў хвіліну адвязу!
*(Прыпеў).*

Лесу далі—зруб гатовы,
Хату мае, дзьве каровы!
*(Прыпеў).*

Тры маргі вось сенакосу—
Разгуляцца ёсьць дзе косам!
*(Прыпеў).*

Наш Мікіта—чысты зух,
На ім новенькі кажух!
*(Прыпеў).*

Што пасеяў, то й пажаў,
Гумно збожжа ён наклаў!
*(Прыпеў).*

Вось цяпер сьвяткуе сьвята,
Працу скончыўшы араты!
*(Прыпеў).*

Шле Савецкай Ўладзе дзякуй
Наш Мікіта Кажамяка!
*(Прыпеў).*

**Іл. Барашка.**

## Ураджайнае.

Заіржала, запеніла вуліца,
Комсамольскім руплівым іржаньнем,
Гул весёлы бадзёрыць ваколіцу,
Заўтра сьвята у іх ураджайнае.

Заляскалі лапці па вуліцы,
Рыхтавацца сталі к сьвяту,
Вунь у хаце лучына курыцца:
Комсамолец чытае газэту.

Прачытаўшы, абвестку даў ў людзі,
Заўтра сход будзе у клюбе з раньня,
Агроном ужо напэўна будзе
Па галоўным зямельным пытаньні.

Аж да вечара пар валіць з вокан
Комсамольскага клюбу вясковага,
Ну і хлопцы, бадай ім, ня ўрокам,
Вось хто вёску пацягне да новага.

Уляглася здаволена вёска
Комсамольскім асеньнім сьвятам
Ой і плакала-ж сёньня Зоська—
Ў комсамол ня пушчае тата...

А назаўтра падумаў дый кажа:
Будзь—што будзь, як сабе хочаш,
Калі пойдзеш, працуй там дужа,
Можа цемру сваю там зможаш.

Там, дзе ўчора п'яная вуліца
На Ільлю выпівала у полі,
А сягоньня да сьвету ўжо туліцца,
І імкнецца да жыцьця, да волі.

Ой, зьнішчыць, зьнішчыць разоры,
Бунтоўная раць комсамолу,
Вось на сходзе казалі учора,
Каб прыслалі ім трактар новы.

**Мікола Чарнушэвіч.**

---

## Вынікі нашай працы на агародзе.

*(Цытвянская яч. ЛКСМБ, Шацкі р., Меншчына).*

Яшчэ ўвесну наша комсамольская ячэйка ўзялася за апрацоўку агароду з мэтай зрабіць яго паказальным для сялян.

Працу на агародзе спаткалі шмат няспрыяючых умоў. Папершае, сам агарод ячэйка атрымала позна, ды й дажджлівая пагода перашкаджала пасьпешнасьці ў працы. Падругое, ня было аніякай сувязі з агропунктам і саўхоскім агрономам, дзякуючы чаму праца праводзілася без усялякіх агрономічных парад.

Потым ячэйка ня так прадбачыла тую залежнасьць комсамольцаў ад бацькоў, якая выявілася ў часе працы, і нам прыходзілася працаваць на сваім агародзе не тады, калі гэта патрэбна.

Ня было шмат і часу вольнага. І ячэйцы прыходзілася, напрыклад, агортваць капусту толькі адзін раз, у той час, калі добрыя гаспадаркі гэта прарабляюць 2-3 разы.

Ня гледзячы на ўсё гэта, вынікі працы ёсьць. Нашы буракі, морква і цыбуля парасла сярэдняй. Капуста „браўншвэйская“ парасла вельмі вялікай. Кожны качан будзе важыць да 20-30 фунтаў, чаго няма на сялянскіх агародах.

Калі Цытвянская ячэйка часткова і ня справілася з сваімі заданьнямі, дык затое яна мае вопыт на будучы год. А агулам кажучы, вынікі працы добрыя. У „Дзень Ураджаю“ экспонаты з нашага агароду будуць на сялянскай с.-г. выстаўцы і яшчэ больш скажуць пра дасягненьні ячэйкі.

**Гарэльчык.**




# Дзень ураджаю.

*Схэма пастаноўкі ў 3-х абразкох.*

А С О Б Ы:

Язэп—студэнт, 20 г.
Міхаська—брат студэнта, комсамолец, 18 г.
Хруцкі—сакратар ячэйкі Комсамолу, 19 г.
Рыгор Пшанічны—бацька Язэпа і Міхася, 50 г.
Аўгіня Пшанічная—матка Язэпа і Міхася, 40 г.
1-шы селянін—серадняк, 40-45 г.
2-гі селянін—бядняк, дэмобілізаваны чырвонаармеец, 28 г.
Голас з натаўпу.
Сябры драм-гуртка. } Маладыя хлопцы ды дзяўчаты, умеючыя дэклямаваць і скакаць „лявоніху“ і іншыя скокі.

## АБРАЗОК I.

Адбываецца ў хаце селяніна Рыгора Пшанічнага напярэдадні дню ўраджаю. Сцэна прадстаўляе сабою хату селяніна серадняка. Убранства—звычайнае вясковае. На сьцяне побач з абразамі вісіць портрэт Леніна. Адбываецца ў вечар.

### З ь я в а 1.

Рыгор і Язэп.

(*Рыгор і Язэп сядзяць за сталом, першы нешта вылічае на паперцы, бармочучы сабе пад нос; другі—Язэп—чытае газэту*).

Р ы г о р. Так, та...ак... (*гледзячы на паперку*) нішто, нішто, крыху малавата, так, малавата... (*задумленна*) восем дзесяцін, дзьве пустуе пад папарам, колькі-ж озіму? Так, так, тры, тры, калі лічыць з капы—абмалоту будзе шэсьць пудоў... колькі-ж гэта? (*Зноў бярэцца за алувак*). Значыць шэсьць разоў па тры... колькі гэта, так, шаснаццаць. Не, не, восемнаццаць, так, восемнаццаць разоў на восем... колькі гэта? Дзесяць разоў па восем—восемдзесят, так, восемдзесят. Колькі гэта? (*Лічыць*). Трыццаць шэсьць Не, не, болей, болей... (*Думае*). А ліха яго ведае, больш за сто будзе малавата, але чаго-ж хацець. (*Да Язэпа*). А ліха яго—ня выходзіць, сынку, хаця-ж іншыя кажуць, што і разумны я чалавек, а рытмэтыкі, ліха яго, не разьбяру (*Сьмяецца*). Хацеў наперад вылічыць я хоць прыблізна, колькі сабраў я збожжа, але розум не дазваляе, а ліха на яго!..

Я з э п (*паклаўшы на стол газэту, сьмяючыся*). Кажаш няздольны да рытмэтыкі, тата? Давай штонебудзь дапамагу. Першае, пашто гэта ты ўздумаў лічыць колькі озіму, ярыны?

Р ы г о р. Быццам і ня ведаеш. Гэта-ж ты як прыедзеш, дык і кажаш заўжды, што трэба ўсё лічыць, падлік усяму рабіць, каб культурную гаспадарку завесьці. Добра ўеліся ў галаву маю твае словы—у гэтым годзе сабраў малавата, дык шукай прычыны, чаму малавата, бо другі год ідзе. Вось я і вылічаю, а ліха яго—ня выходзіць нешта.

Я з э п. А, значыць, памятуеш! Гэта добра. (*Сьмяецца*). Вось калі скончу я навуку, дык цябе агрономам зраблю, ня я буду—хоць на старасьці год. Ну, што ў цябе там такое? (*Падыходзіць, садзіцца побач з Рыгорам*).

Р ы г о р. Колькі озіму ў гумне ляжыць, хачу падагуліць, во, на. (*Дае паперку*).

Я з э п (*углядаючыся*). Але-ж і напісаў Як курыца надрэпала. Нічога не зразумею я з твае пісаніны; вучыцца, тата, трэба...

Р ы г о р (*перабіваючы*). Сьмяяцца няма чаго, няма!

Я з э п. Ты абразіўся?

Р ы г о р. Ды не! На каго? Што праўда, то праўда. На цябе абразіцца—за вошта. Вось на цара, дык справа іншая. Падумаць толькі (*здаволена Смяючыся*), ці-ж мой Язэпка пры цары быў-бы, як гэта, скупэнтам, а...

Я з э п (*разглядаючы паперку*). Ня скупэнтам, а студэнтам!

Р ы г о р. Ды няхай сабе і студэнтам, ліха яго, няпрывычнае слаўцо, ды я кажу пры цары мужык мужыком быў, мужыком і паміраў, не да навукі было, калі ў дзеда твайго дзьве дзесяцінкі надзелу было, ды прыпісной маргі са тры.

Я з э п. Ну, вылічыў, озіму ў нас, калі лічыць з трох дзесяцін ды па шэсьць коп з дзесяціны ды з капы па восем пудоў, дык выйдзе—сто сорак чатыры пуды.

Р ы г о р. Колькі, колькі?

Я з э п. Сто сорак чатыры.

Р ы г о р. Ды што-ж з таго, што ты мне сказаў сто сорак і чатыры... Ты вось падлічы, колькі застанецца ў каморы, калі вылічыць на падатак,

тое, што пасеяць трэба ды й праесьці мне, матцы ды Міхасю, вось гэтага я даведацца хачу!

Язэп. Гэтага ты даведацца хацеў—гэта добра, але з аднэю паперкаю і я пакуль што вылічыць ці здолею... *(Думае)*. А лепш за ўсё ў кніжку зірну, правільней выйдзе (*Устае ісьці за кніжкаю*).

Рыгор. Ну, ну, зірні. (*Здаволена ўхмыляецца*).

### Зьява 2.

Тыя самыя і Міхаська.

Міхаська *(з парогу)*. Язэп у хаце?

Язэп (*разьбіраючы кніжкі*). Ну, чаго?

Міхаська. Хруцкі да цябе прысьці зьбіраецца, нікуды з хаты ня выходзь. Па справе вельмі важнай, даклад табе зрабіць даручылі.

Рыгор *(да Міхаські)*. Чаму гэта цябе ў хаце дагэтуль ня было? Матцы дапамагчы трэба, а ён як пашоў, дык і зьнік.

Міхаська. У нас было пасяджэньне бюро ячэйкі. Абгаварвалі вельмі важнае пытаньне *(узвышаючы голас)*, **як правесьці Дзень Ураджаю.**

Рыгор (*зацікаўлена*). Ну, ну.

Міхаська. Пастанавілі правесьці сход, даклад пра дзень ураджаю даручылі зрабіць Язэпу...

Рыгор. Ну, ну.

Міхаська. Пастанавілі прыняць чынны ўдзел у наладжаньні ў раёне сельска-гаспадарчай выстаўкі.

Рыгор. А, а... а. Цікава.

Язэп (*ідучы да стала з разгорнутай кніжкай*). Вось знашоў. Падлічым. (*Лічыць*).

Міхаська (*скідаючы сьвітку*). Песьні разучыць пастанавілі. (*Падыходзіць да лаўкі, садзіцца, дастае з кішэні паперкі і перачытвае*).

Сьмялей, зару спаткаем,
Сябры, у барацьбе.
Карцечай і штыкамі
Праб'ём мы шлях сабе...

Рыгор. Ды-ж гэта панашаму і песьня ў цябе напісана, як, як-жа гэта:

Сябры у барацьбе
Карцечай і штыкамі

Як гэта далей?

Міхаська (*сьмяючыся падказвае*).

Праб'ём мы шлях сабе.

Рыгор. Цікава, цікава. (*Падбіраючы мотыў*). Пра-а-б'ём мы-ы шляах сабеее...

Міхаська. Язэп, чуеш? Наш бацька так зацікавіўся песьняй, што і далей ня пытае аб тым, што ў нас там было, як заўжды. (*Да Рыгора*). Пяецца песьня так (*пяе*):

Сьмялей, зару спаткаем,
Сябры, у барацьбе,
Штыкамі і карцечай
Праб'ём мы шлях сабе.

Рыгор. Ну і я. (*Пяюць першыя 4 радкі нанова. Міхаська першым, а бацька, вышаўшы на сярэдзіну хаты і тупаючы ў такт нагою, другім*)

### Зьява 3.

Тыя самыя і Хруцкі.

Хруцкі. Што гэта ў вас за концэрт адбываецца? У хату вечар добры!

Рыгор (*чухаючы галаву*). Песьня мне ўжо, а ліха на яе, надта-ж спадабалася. Ашалеў я на старасьці год. Як бачу я, Язэп ды Міхаська камсамольцам мяне зрабіць зьбіраюцца. (*Рагоча*). Што, каб Максім Канцавы ўбачыў! Сказаў-бы, што ашалеў стары!

Хруцкі (*вітаючыся з Рыгорам*). Ды не, дзядзька, ніхто-б нічога не сказаў, ня заўжды і працаваць, як гэта раней было; раней як кажуць старыя, забаранялася пяяць усе іншыя песьні ў хаце, акрамя царкоўных, а цяпер, як у нас Савет, як ноў няма, дык вы, дзядзька, сам сабе гаспадар, як з працай справіўся, дык і пасьпяваць ніхто не забароніць, а што сьмяецца... Дык дурань з вас сьмяўся-б, во, такія, як Максім Канцавы, дык хібашто... (*Падыходзячы да Язэпа*). Здароў, братка Язэп. Добра, што ў хаце застаў цябе.

Язэп. Здароў, то здароў, але чаму гэта вы без мяне мяне ажанілі!? Усучылі даклад зрабіць, ці-ж не знашліся-б другія хлапцы, ну хаця-б і сам ты, як сакратар нашай ячэйкі.

Хруцкі. А кінь, браток, філёзофію разводзіць. Папершае, я, як сакратар ячэйкі, павінен кіраваць сілаю ячэйкі, ня ўсё-ж і мне рабіць, трэба-ж абудзіць ад адпачынку і цябе, трэба, каб і ты карысьць нейкую зрабіў для сваёй вёскі, у якой радзіўся, у якой гадаваўся...

Рыгор (*перабіваючы*). Што праўда, сынку, то праўда.

Язэп. Чаго гэта вы гутарку такую вясьці пачалі—нібы-то я адмаўляюся ад дакладу ці што? Даклад зраблю, літаратуры ў мяне па гэтаму пытаньню хапае, а клюб як? Прыбраны? Раз сьвята, трэба,каб і клюб не на стадолу падобен быў! (*Думае*).

Хруцкі. А што ты парадзіш?

Міхаська. Якое сьвята праводзім? Дзень Ураджаю? Дзень Ураджаю! Значыць, клюб трэба ўбраць снапамі збожжа ды зеляніны прыдбаць можна,—гэтым мы выявім земляробчае сьвята.

Язэп. Вырваў у мяне з вуснаў, і я пра гэта-ж самае сказаць хацеў!

Рыгор. Што праўда, то праўда, а ліха на яго, то праўда, сынкі мае.

Хруцкі (*да Рыгора*). Вы пра што, дзядзька?

Рыгор. Ды пра гэта, а ліха на яго, як-жа пагэта—дзень ураджаю будзеце сьвяткаваць і я паслухаць прыду. Во, каб я больш пісьменным быў, дык і я можа даклад вам зрабіў-бы. (*Падыходзіць да Язэпа, прыглядаецца ў кніжку, чытае*). Я-кая ка-а-рысьць бела-арус-каа-му селя-ні-і-ну буу-дзе каа-лі ё-он пя-арой-дзе на-а шма-ат-поль-ле.

### Зьява 4.

Тыя самыя і Аўгіня.

Аўгіня (*за парогам*). Міхаська! Міхаська! (*Адчыняючы дзьверы*). Ідзі кошанкі нанач быдлу загінь! Зараз як млека я працаджу—вячараць будзеш (*Выходзіць*).

Міхаська. Іду, іду. (*Вылятае за дзьверы*).

Рыгор (*раздумна*). Дый і мне пайсьці ў хлеў паглядзець, ці што? А ты, Язэп, нашу рытмэтыку падлічыў?

Язэп. Падлічыў, падлічыў, даведацца пасьпееш! (*Да Хруцкага*). Вось ня ўрымсьціцца. Дакладна вылічыць захацеў, колькі озіму ў лішку застанецца.

Хруцкі (*да Рыгора*). Што-ж, справа добрая, агрономам хочацца быць—і гэта крок наперад...

Рыгор (*стоячы каля дзьвярэй*). Ды куды там у агрономы мне лезьці, хай ужо Язэпка будзе ім, а мне... (*Махае рукой*). Ну, трэба пайсьці! (*Выходзіць*).

### Зьява 5.

Хруцкі і Язэп.

Хруцкі (*разглядаючы кніжкі*). Каб нам хоць не праваліць заўтра сьвята. А то-ж і так аўторытэт нашай ячэйкі сярод сялянства, па праўдзе сказаць, слабаваты. (*За сцэнай пацiху пяецца песьня „Маладняк“ хорам*).

Язэп. Ня бойся, ня сумуй, усё пройдзе, як па масьле. Даклад падрыхтуем, хлопцы дый дзяўчаты на сцэне паскачуць, дэклямацыю падбярэм, ну, а гэтым сваю актыўнасьць сярод сялянства выявім.

Хруцкі. Хаця-ж бы тольк!... (*Сьпеў чуцен бліжэй*).

Язэп. Малайцы хлопцы, песьні развучваюць, хто-б гэта так гарлапаніў (*Глядзяць у вакно*).

Хруцкі. Пайду пагляджу, нельга-ж так, дысцыпліна ў Комсамоле больш-менш быць павінна. (*Вылятае за дзьверы*).

### Зьява 6.

Язэп.

(Песьня прыціхае, з далёку за сцэнай чуцен голас Хруцкага „Хлопцы, хлопцы, чаго разгарлапаніліся на ўсю вёску, цішэй крыху).

Язэп (*ходзячы па пакоі*). Які-ж гэта матэрыял мне прыдзецца прачытаць? У „Маладым Аратым“ артыкул ёсьць (*кладзе кіпы на стол*), у „Маладняку“ (*зноў кладзе кніжку з кіпы на стол*), у „Чырвонай Зьмене“ (*кладзе газэту*). А вось і спэцыяльная кніжка, так і завецца (*голасна*) „Дзень Ураджаю“.

(ЗАСЛОНА).

## АБРАЗОК II.

Сцэна прадстаўляе сабою прэзыдыум сходу. На сцэне два сталы і тры крэслы. Адзін меншы столік стаіць збоку. За сталом па сярэдзіне сцэны сядзяць: Хруцкі (пасярэдзіне), першы селянін і другі селянін (па баках).

### Зьява 1.

Хруцкі (*да публікі з-за стала*). Таварышы! Агульны сход сялян вёскі (*называецца назва тае вёскі, дзе ставіцца п'еса*) лічу адчыненым. Сёньня мы ўсе сабраліся тут адсьвяткаваць вялікае сьвята, сьвята ўраджаю. Гэта сьвята—дзень падліку дасягненьняў нашага сялянства ў адносінах сельскае гаспадаркі за мінулы год.

Селяніну ў працягу ўсяго лета прыходзіцца клапаціцца аб становішчы сваіх ураджаяў. Толькі тады, калі ён убярэ хлеб, сенакос і астатнія пасевы, у селяніна палягчэе на сэрцы, толькі тады селянін уздыхне вольнымі грудзьмі, тады толькі ў селяніна сьвята. Але папы, ксяндзы і іншая чорная „брація“ да Кастрычнікавай Рэволюцыі скарыстоўвала гэта сьвята ў свой бок, дапасоўваючы яго да рэлігійных сьвят. Іх сьвяткаваньне выяўлялася ў тым, што яны прысвойвалі сабе частку сялянскага ўраджаю, на бога дый у шырокую папоўскую кішэню. Сьвяткаваньне-ж для селяніна цягнулася ня доўга: трэба было плаціць арэнду, на царкву, падаткі і даўгі, не забываючыся і манапольկі...

Цяпер, калі селянін сам гаспадар свайго жыцьця, калі ён сам арудуе сваёй працай і яе вынікамі, калі сам устанаўлівае цану на свой продукт, то ўвесь прыбытак застанецца ў яго, на які ён зможа ня толькі палепшыць сваю гаспадарку, а нават і жыць так, як павінны жыць людзі. Гэта галоўная адзнака сьвята сучаснага ад мінулага.

У дзень ураджаю, падлічыўшы недахопы і добрыя прыклады вядзеньня гаспадаркі, мы зможам на будучы год заснаваць сельскую гаспадарку на мацнейшым грунце!

(*З натаўпу пачынаюцца воплескі, пачынаюць воплескі сябры драмгуртка, седзячы ў публіцы*).

Хруцкі (*падымаючы руку*). Цішэй, цішэй, таварышы! (*Супакойвае да тых часоў, покуль публіка не ўціхамірыцца*). Таварышы, слова для дакладу аб дню ўраджаю мае Язэп—сын Рыгора Пшанічнага. Таварыш Язэп Пшанічны! Займеце месца дакладчыка!

### Зьява 2.

Тыя самыя на сцэне і Язэп.

Язэп (*уваходзіць па сходках на сцэну з публікі, праходзіць разы са два па сцэне, становіцца ля століка, які стаіць збоку, дастае з кішэні кавалачак паперы, кладзе на стол*).

Таварышы! „Мужык беларус, пан сахі і касы“ сёньня сьвяткуе сваё працоўнае сьвята. Прашла вясёлая вясна, мінула страднае лета, у вокны глядзіць восень. Многа поту праліта, многа працы зроблена, але затое люба глянуць у пуні і сьвірны.

Ня ласкава да працаўніка прырода Беларусі: пясок, камень, суглінак, балоты... Не дае зямля бяз працы ані зернятка... Аднаго гною колькі трэба вывезьці, каб поле зрабіць ураджайным! І працаваў наш селянін праз усю вясну і лета, не пакладаючы рук, працаваў не на пана, а на сябе.

Ня так было раней... Араў селянін поле, але не сваё, а панскае! Прыходзіла восень, вазіў селянін снапы збожжа, але не ў сваю пуню, а на панскі двор. Узімку пан з паняю ехалі на замежныя курорты, а селянін клаў зубы на паліцу. Няпрыветна спатыкаў ён цяжкую зіму і не сьвяткаваў ён дню ўраджаю, бо быў нявольнікам у панскіх руках.

Цяпер ня тое. Упяклі паны з межаў нашай работніцка-сялянскай Беларусі. Пакуль-што прытуліліся яны ў Заходняй Беларусі, пад ахранаю штыка і бізуна польскага жандара. Накормленыя і напоеныя нашымі братамі, сялянамі і рабочымі Заходняй Беларусі, са злосьцю пазіраюць яны на ўсход. Хочацца ім пакаштаваць поту і крыві нашага савецкага селяніна, але дарма! Блізка локаць, але ня ўкусіш! Чырвоная армія і працоўныя масы Беларусі стаяць на варце і ня пускаюць іх на свае межы!

Забраў селянін панскую зямлю і працуе над ёю, не шкадуючы сіл; працуе, каб падняць зруйнаваную вайною гаспадарку, каб узмацніць сваю рабоча-сялянскую маладую Рэспубліку—Беларусь.

У цёмныя куткі сялянскай Беларусі рэволюцыя прынесла новыя веды, новую культуру. Селянін добра ведае, што ўраджай залежыць не ад ласкі сьвятога Міколы, ці якога другога сьвятога, а ад уласных ведаў. Што ня Юры множыць і гадуе скаціну, а добры корм і дагляд; што не багародзіца корміць яго, яго дзетак, а добры плуг, добрае насеньне, мазольныя рукі!

Голас з натаўпу. Правільна, правільна!

Хруцкі. Цішэй, сябры, не перашкаджайце дакладчыку!

Язэп. Таварышы! Наша сьвята—сьвята ўраджаю, сьвята ўзмацаваньня сельскай гаспадаркі. Галоўнае, таварышы, гэта ўсім нам зразумець, што без яе разьвіцьця мы ніякага новага жыцьця ня збудуем! Падняць-жа сельскую гаспадарку мы здолеем толькі тады, калі самі пачнём падымаць сваю ўласную гаспадарку.

Што-ж датычыцца дапамогі сялянству Савецкай уладай, дык трэба адзначыць, што наш рабоча-сялянскі ўрад прыняў усе крокі для дапамогі сялянству.

Я вам, таварышы, зараз адзначу цэлы шэраг тых мерапрыемстваў, якія накірованы Савецкай уладай для дапамогі сялянству, і першае—гэта кооперацыя сялянства. У гэты час уся ўвага накірована на тое, каб падтрымаць беднату, каб з гораду даць ёй падтрымак і сродкі барацьбы з тым кулацкім слоем сялянства, які рыхтуецца эксплёатаваць беднякоў. Машыны Савецкая ўлада перакідвае на сельска-гаспадарчы фронт. Толькі трэба нам-жа самым узяць этую машыну, толькі трэба нам-жа ...м арга...цца ў машыннае таварыства—і ма...а будзе. Амаль-што ўсюды існуюць у нас комітэты ўзаемадапамогі. Гэта, таварышы, нашыя вясковыя комітэты, нашыя-ж узаемадапамогі. Яны праводзяць вялікую працу. З імі, таварышы, лягчэй жыць. Гэта-ж комітэты ўзаемадапамогі здавальняюць маламоцных маемасьцю і семянной пазыкай. Гэта яны дастаюць крэдыт, дапамагаюць беднякам ...аць лес дарэмна, дастаюць льготы па звароту ...ной ссуды. Комітэты-ж клапоцяцца аб тым, ...і маламоцных сялян былі звольнены ад па... ...ескую гаспадарку нельга падняць бяз ...я гэтага пабудаваны сельска-гаспа... . Гэтым банкам Савецкая ўлада хоча дапамагчы сялянству розным крэдытам і натураю, і сродкамі вытворчасьці і шляхам дапамогі, грашовымі пазыкамі.

Цяпер аб падатку. Савецкая ўлада, ідучы насустрэч падняцьцю сельскае гаспадаркі, у гэтым годзе зьменшыла, як вы самі ведаеце, сельска-гаспадарчы падатак.

Вось, таварышы, як Савецкая ўлада клапоціцца аб сялянстве. Я скончыў.

Хруцкі. Хто мае запытаньні ці рэзолюцыю якую?

Голас з натаўпу. Дазвольце мне. Таварышы! У такі сьвяточны дзень ніякай афіцыяльшчыны ня трэба. Правільна ўсё сказана нашым Язэпам. Я прапаную ў знак еднасьці ўсіх думак нашых прапяяць Беларускую Марсэльезу „Ад веку мы спалі“. (*Сам пачынае, сябры драмгуртка, а за імі і ўвесь натаўп пяюць „Ад веку мы спалі“*).

Хруцкі. Таварышы, на гэтым офіцыяльная частка нашага вечару скончана. Апавяшчаю на пяць хвілін перарыў, далей адбудзецца концэрт, наладжаны сіламі нашага драмгуртка.

(ЗАСЛОНА).

## АБРАЗОК III.

(За час заслоны са сцэны прымаецца ўся мэбля, сцэна пустая).

Хруцкі. Концэртнае аддзяленьне лічу адчыненым. Першым нумарам пойдзе наша беларуская лявоніха. (*Выходзіць за сцэну. На сцэне зьяўляюцца дзьве пары і скрыпач, скачуць лявоніху*).

Хруцкі. Другім нумарам дэклямацыя. (*Сябра драмгуртка дэклямуе верш, прыстасаваны да дню ўраджаю*).

Хруцкі. Трэцім нумарам беларуская мяцеліца і г. д.

(Концэртная частка складаецца на месцы кіраўніком драмгуртка, прыстасоўваючыся да часу і сіл гуртка).

КАНЕЦ.

---

## Увага да пастаноўкі.

Гэтай пастаноўкай мне жадалася выявіць наглядна перад сялянствам актыўнасьць комсамольцаў у справе наладжаньня і правядзеньня сьвята ўраджаю ў вёсцы. Ставячы гэтую пастаноўку, трэба большасьць увагі аддаць другому абразку, у якім удзел прымаюць хаця і пасыўна (дружнымі воплескамі) ўсе прысутныя. Трэба пастарацца, каб другі абразок захапіў прысутных сваёй праўдзівасьцю. Трэба так стала сыграць яго, каб прысутныя былі ўпэўнены, што яны знаходзяцца на сходзе. Ролю Язэпа трэба даручыць разьвітому хлапцу, які-б, у часе якіх-небудзь запытаньняў з боку прысутных, здолеў-бы на іх здавальняюча, з запалам адказаць і бяз суфлёра. Абразок трэці—гэта концэртная частка звычайнага вечару, толькі з тэй асаблівасьцю, што ўвесь матэрыял прыстасоўваецца кіраўніком драмгуртка да „Дню Ураджаю“. Асабліва цікавым будзе, калі сялянства здолее ўгледзіць на сцэне тыя скокі, якія адбываюцца на вячорках у той мясцовасьці, дзе ставіцца пастаноўка. Адна ўмова—скокі павінны быць беларускія—лявоніха, мяцеліца, крыжыкі, верабей і гэтым падобныя. Вальса, матлёта, кракавяка і інш. быць не павінна. Цымбалісты альбо скрыпач падыгрываюць у часе скокаў. Можна выпушчаць іх і ў як кананьні асобных нумароў концэртнае часткі. Пляновасьць, адсутнасьць сьпешкі дапамогуць ставячым добра правесьці гэтую пастаноўку.

**Іл. Барашка.**



# ШТО ЧЫТАЦЬ

**В. В. Фэрдынандаў.** *Як атрымаць даход ад пшушніцтва.* Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск—1925 г. 94 стр. Цана 12 кап.

Беларускі селянін казаў і кажа: эт, куры, качкі—гэта баб'я справа! І ніколі не паклапаціцца аб тым, каб яго хатнія птушкі далі нейкую карысьць гаспадарцы. Пакарміць ён іх не пастараецца, а як у агарод ускочыць, так пашыбнем палкі ці каменя заробіць.

І гаспадыня на гэту справу глядзіць ня лепш, хоць карысьць ад птушак і ведае добра. Улетку яна разоў пару на дзень праверыць, ці ня згубіла курыца яйка, а як сабярэ дзесятак-другі, так у хустку іх ды гайда ў коопэратыў.

Большая частка гаспадарак яек амаль што зусім ня ўжывае, бо іх, прызнацца, і няма. А між іншым кожны ведае, што яйкі—добрая і смачная яда.

Такія погляды на птушніцтва давялі гаспадара да таго, што ён зараз каб і хацеў, дык ня ўмее правільна, з добрым для сябе прыбыткам, даглядаць сваіх хатніх птушак.

Аўтар гэтай кніжачкі і пашоў насустрач у разьвязаньні гэтых пытаньняў ... спатканьне ўсёй сялянскай Беларусі выданьнем адзінага матар'ялу аб птушніцтве, прыстасованай для шырокіх сялянскіх гушч.

Зьмест кніжачкі—самы шырокі, тут разгледжаны ўсе пароды і гатункі кур, якія лепш трымаць і як іх даглядаць, каб атрымаць добры прыбытак.

Толькі трэба ўзяць ды пачытаць, а карысьці гэта кніжачка дасьць шмат.

**М. Кацаураў.** *Як жыве і прарастае насеньне.* Выдавецтва „Белтрэстдрук", 1924 г.

Каб павесьці добра гаспадарку, трэба ведаць жыцьцё расьліны. Толькі тады магчыма рабіць адпаведны выраб глебы, угнаеньне, час і спосаб засеву і г. д.

Аўтар у гэтай брашурцы ідзе насустрач у разьвязаньні гэтых пытаньняў.

Проста і зразумела абрысавана пабудова зерня, прарастаньне, карысьць здаровага насеньня, а ў зьвязку з гэтым сяўба і запрацоўка насеньня.

Кніжка малая, цікавая і лёгка запамінаецца.

**М. Кацаураў.** *Бульба і караньплоды.* Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, 1925 г., 73 стар., кошт 10 кап.

Кніжка гэта складаецца як-бы з двух частак. Першыя дзьве трэці старонак выключна займае апісаньне пра бульбу. Тут аўтар падрабязгова застанаўліваецца на ўсім, што тычыцца гэтае расьліны: апрацоўка глебы пад бульбу, угнаеньне, умовы, пры якіх трэба рабіць пасадку, дагляд і гатункі бульбы, зборка, захаваньне, хваробы, значэньне бульбы ў далейшым падняцьці нашай гаспадаркі праз жывёлаводзтва і г. д.

Другая частка пасьведчана разгляду расьлін, менш пашыраных у нас—гэта кармовыя буракі, морква, бручка і турнэпс.

Кніжка дзякуючы такому шырокаму прымяненьню бульбы і другіх караньплодаў на Беларусі, на якія напалову апіраецца наша гаспадарка, мае вялікую с.-г. вартасьць і павінна чытацца кожным комсамольцам, які ёсьць піонэр ня толькі ў палітычных, а і ў гаспадарчых адносінах.

**І. Серада.** *Сьвіньня—скарбніца гаспадара.* Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, 1925 г.

У нашай с.-г. старонцы адшукоўваньне спосабаў перарабленьня таннейшых продуктаў у больш каштоўныя павінна заняць сур'ёзнае месца.

Адною з машын, якая зусім танныя продукты ральніцтва (мякіну, высеўкі, макуху, зярнё і ўсялякую траву) пераварачвае ў каштоўныя жывёлаводныя (сала, бэкон, вяндліну, каўбасы)—зьяўляецца сьвіньня.

Зусім зразумела, каб гэтага дасягнуць, гаспадару трэба ведаць, як карміць, даглядаць і палепшыць якасьць свае жывёлы.

Т. І. Серада лёгкай зразумелай мовай на ўсё гэта дае адказы.

Апроч гэтага, тут шмат зьвернута ўвагі на практычныя пытаньні, як напр: выраб каўбас розных гатункаў, вяндліны, сала салёнага, маласольнага (бэкону), разбор кабана, вымер вагі без вясоў, пабудова сьвінюшніка і хваробы сьвіней.

Усё гэта робіць вельмі патрэбнай кніжку для сялян, вясковых с.-г. ... коў і ў першаю чаргу моладзі, як ... дучым гаспадаром.

Кніжка мае 62 старонкі ... малюнкамі. Каштуе 10 ...

## Навіны навукі і тэхнікі.

### Наладжаньне ёднае прамысловасьці ў СССР.

Ёд, які выпаўняе такую вялічэзную ролю ў сучаснай мэдыцыне, да гэтага часу прывозіўся да нас толькі з заграніцы.

Зараз спэцыялістымі СССР знойдзены спосабы здабыць ёд з саляных раствораў некаторых вазёр і буравых водаў Апшаронскае паўвыспы. Кошт продукту, здабытага ў нас, будзе значна танейшы, чым заграмнічнага. Адно кілё ($2^1/_2$ ф.) яго будзе каштаваць ня больш 16 руб., тады, як заграгнічны ёд абыходзіцца нам каля 20 руб. за кілё. Прымаючы пад увагу вялікія запасы саляных раствораў на Каўказе, можна спадзявацца, што добрая пастаноўка гэтае справы дасьць нам магчымасьць ня толькі абыходзіцца ёдам свайго вырабу, але й вывазіць яго нават заграніцу. Зараз „Госмедторгпром" наладжвае выраб уласнага ёду на вопытным ёдным заводзе, які будзе выпушчаць продукту ў суткі 20 кілёграмаў (1 пуд. 10 ф.).

### Надзвычайна чулая вага.

Нямецкія вучоныя Гольц і Кульман змайстравалі нядаўна для хімічных досьледаў вагу надзвычайнае чуласьці. Калі палажыць на іх, скажам, 20 грамаў, дык яны дазваляюць выкрыць розьніцу ў адну дваццацімільённую частку грама. Звычайныя разьвешваньні на ёй робяцца з пэўнасьцю да аднае дзесяцімільённае часткі грама.

### Сухотныя мікробы ў кніжках.

Двое францускіх дасьледаўцаў, прарабіўшы шмат досьледаў з сухотнымі бацыламі, знашлі, што калі хворы на сухоты занясе гэтыя бацылы разам з сьлінаю на лісты кніжкі, дык яны могуць жыць на лістох цэлых 135 дзён і ва ўвесь гэты час заставацца заразьлівымі.

Трэба памятаць, што, лістаючы кніжку, ніколі ня трэба змочваць пальцы сьлінаю, каб не пераносіць хваробы.

Рэдактары: А. Самахвалаў. Іл. Барашка.

1-я дзярж. друк, Зак. № 4411—(1300). Галоўлітбел № 12309.